ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 93 (1730) | Аўторак, 20 лістапада 1962 года | Цана 4 кап.



# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ АБ ПЛЕНУМЕ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

**19 лістапада 1962 года ў Вялікім Крамлёўскім палацы адкрыўся Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС.**

**На парадку дня Пленума пытанне аб развіцці эканомікі СССР і партыйным кіраўніцтве народнай гаспадаркай.**

**З дакладам па гэтаму пытанню выступіў Першы Сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш М. С. Хрушчоў.**

**Для ўдзелу ў рабоце Пленума ЦК запрошаны першыя сакратары абкомаў партыі, якія не ўваходзяць у састаў Цэнтральнага Камітэта, сакратары некаторых абкомаў і крайкомаў КПСС, што займаюцца прамысловасцю і сельскай гаспадаркай, першыя сакратары і сакратары гаркомаў партыі буйных прамысловых цэнтраў, старшыні Саветаў Міністраў саюзных і аўтаномных рэспублік, старшыні выканкомаў абласных і краявых Саветаў дэпутатаў працоўных, старшыні Дзяржпланаў і Саўнаргасаў саюзных рэспублік, міністры саюзных рэспублік па вытворчасці і нарыхтоўках сельскагаспадарчых прадуктаў, міністры сельскай гаспадаркі, воднай гаспадаркі і будаўніцтва, старшыні аб'яднанняў «Сельгастэхніка» саюзных рэспублік, дырэктары некаторых прадпрыемстваў, перадавікі вытворчасці прамысловасці і сельскай гаспадаркі, работнікі міністэрстваў, Дзяржаўных Камітэтаў СССР і РСФСР, рэдактары цэнтральных газет і часопісаў, адказныя работнікі апарату ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР.**

**Пленум ЦК КПСС працягвае работу.**

Нашы інтэрв'ю

# ХІРУРГІ ЗЯМЛІ

Ішоў дождж. Нават у «Пабедзе», што везла нас на доследнае поле, было вільготна і няўтульна. Анатоль Цімафеевіч Вагін, супрацоўнік Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны СССР моўчкі вёў машыну, асцярожна аб'язджаючы незлічоныя лужыны, быццам не хацеў расплёскваць іх.

Не ведаю чаму, мне прыгадаліся вясёлыя дзіцячыя вершы:

Працягні свае далоні,
Хай праз пальцы дожджык
льецца!
Ў небе хмары быццам коні,
А ў тваіх далонях — лейцы...

Толькі калі я пачула ціхі смех, я зразумела, што прачытала гэты верш уголас. Твар Анатоля Цімафеевіча, які да гэтага быў такі засяроджаны, неяк адразу змяніўся. Вочы заіскрыліся вясёлымі смяшынкамі.

Машына нечакана затармазіла і яе гаспадар адчыніў дзверцы.

— Ой, як гэта добра сказана — утаймаваць дождж, узяць у рукі лейцы і кіраваць стыхіяй! Хадземце на поле і вы зразумееце, як гэта неабходна і як гэта магчыма.

Не чакаючы, пакуль я зашпілю плашч, Анатоль Цімафеевіч энергічна пакрочыў да іржышча, што відаць было за дарогаю.

— Глядзіце, вось тут і на сотнях гектараў навокал, нягледзячы на вялікія дажджы, глеба амаль не насычана вільгаццю

Вагін нахіліўся, узяў у руку невялічкі жаўтлявы камячок зямлі і, расціраючы яго пальцамі, працягваў.

— Уся бяда ў тым, што і ўвосень і ўвесну гэтыя так званыя лёгкія глебы паводзяць сябе аднолькава. Толькі ў нашай рэспубліцы іх каля чатырох мільёнаў гектараў, або 65 працэнтаў ворнай зямлі. Яны, як вядома, малаўрадлівыя. Ворны гарызонт неглыбокі, атрымаць добры ўраджай нельга без унясення вялікай колькасці ўгнаенняў. Ну, а цяпер, калі вы самі бачыце, як прамываюцца гэтыя глебы дажджамі, можаце лёгка ўявіць, якую вялікую эканамічную шкоду сельскай гаспадарцы наносіць гэтая, на першы погляд, няшкодная здольнасць — не затрымліваць вільгаць.

Нібы раззлаваўшыся, Анатоль Цімафеевіч кінуў зямлю і падставіў далонь пад дождж.

— Вось таксама вада нясе ў глыбокія пласты спажыўныя рэчывы, што ўносяцца з угнаеннямі, вось таксама знікае вільгаць з накатнага пласта вясною, калі яна так патрэбна раслінам. Аднак глебы гэтыя маюць і станоўчыя якасці. Яны лёгка апрацоўваюцца, вясною хутка прасыхаюць. Апроч таго, у такой глебе мікраарганізмы маюць высокую актыўнасць. Калі павялічыць ёмкасць вільгаці зямлі, зменшыць водапранікальнасць, можна атрымліваць выдатныя ўраджаі ўсіх культур, асабліва бульбы.

Анатоль Цімафеевіч змоўк, нібы даючы магчымасць субяседніку засяродзіцца і зразумець усю важнасць таго, пра што ён толькі што гаварыў.

— Так, але ж гэта праблемы агратэхнікі і глебазнаўства? — запыталася я.

— Аграномы і глебазнаўцы зрабілі сваю справу, — працягваў мой субяседнік. — Яшчэ перад вайною беларускія вучоныя Шпілеўскі і Лупіновіч праводзілі доследы па акультываванню пясчаных дзярнова-падзолістых глеб. Сам па сабе метад даволі цікавы. Арганічныя ўгнаенні ўносіліся на розную глыбіню. Вынікі аказаліся вельмі добрымі. Пры ўнясенні ўгнаення на 30 — 40 сантыметраў рэзка мяняўся водны рэжым глеб, палепшыліся ўмовы для развіцця сельскагаспадарчых культур. А чаму? Загадка раскрываецца проста. Арганічнае рэчыва на такой глыбіні мінералізуецца больш павольна. — Анатоль Цімафеевіч спыніўся на момант, уважліва паглядзеў на мяне і раптам запытаўся. — Можа, мой расказ вельмі сухі і нецікавы?

Я запратэставала. Тады Анатоль Цімафеевіч працягваў:

— Яшчэ лепшыя вынікі атрыманы прафесарам Венгерскага інстытута глебазнаўства і агратэхнікі Шандарам Эгерсегі. Дарэчы, тры гады назад у нас, у Мінску, праходзіла міжнародная канферэнцыя па павышэнню ўрадлівасці лёгкіх глеб і я з вялікай цікавасцю слухаў паведамленне венгерскага вучонага. Ён даказаў, што арганічнае рэчыва трэба ўносіць у глебу пластамі. Першы пласт — на глыбіню 45—60 сантыметраў, прыкладна праз тры гады — другі, на 15 сантыметраў вышэй за першы. Унесеныя такім чынам угнаенні, захаваюць сваё дзеянне на працягу 10 год. Вось мерапрыемства, якое карэнным чынам мяняе водна-паветраны рэжым глебы, а гэта значыць і яе ўрадлівасць. Угнаенні затрымліваюць вільгаць і спажыўныя рэчывы, з'яўляюцца своеасаблівым падмуркам ворнага пласта. Вось вам і тыя самыя лейцы, пра якія мы гаварылі.

Як бачыце, аграномы і глебазнаўцы не толькі вырашылі праблему, але і паставілі перад намі, механізатарамі, задачу — стварыць машыны для яе практычнага ажыццяўлення.

Яшчэ не бачачы новай машыны, якую стварылі вучоныя-механізатары для пластавага ўнясення ўгнаенняў, я падумала: якія складаныя пошукі. І людзі ідуць па правільным шляху. Машына такая патрэбна, яна будзе жыць.

А пошукі былі і сапраўды не простыя. Калі мы ехалі на доследную станцыю, Анатоль Цімафеевіч расказаў пра спробы механізаваць пластовае ўнясенне ўгнаенняў не толькі ў нас, але і за рубяжом. У Венгрыі, дзе гэты метад даўно ўкараняецца, выкарыстоўваюць плантажны плуг. Пасля праходу плуга ўгнаенні кладуць на дно баразны роўным пластам. Потым, пры другім праходзе, іх засыпаюць. Але плантажны

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# З КЛОПАТАМ ПРА ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ МАСТАЦТВА

## ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ

Даклад аргкамітэта Саюза кінематаграфістаў БССР Першаму, Устаноўчаму з'езду, скарочаная стэнаграма якога змешчана ў мінулым нумары нашай газеты, па сутнасці абмінаў шматлікія канкрэтныя пытанні дзейнасці аргкамітэта, які існуе з сакавіка 1958 года.

Сярод дэлегатаў была распаўсюджана спецыяльная справаздача, дзе падрабязна прааналізавана работа арганізацыйнага камітэта саюза і ўзняты праблемы, якія, на думку бюро, неабходна было вынесці на абмеркаванне з'езда.

Справаздача паведамляе аб стварэнні і рабоце секцый: мастацкай кінематаграфіі, дакументальнага кіно (яна ж вядзе і работу з кінааматарамі), навукі і тэхнікі, драматургіі і кінакрытыкі і пастаяннай ваеннай камісіі.

За гады існавання аргкамітэт прыняў у члены Саюза кінематаграфістаў 71 чалавека.

Паколькі аргкамітэт не меў свайго прэзідыума, усе найбольш важныя пытанні вырашаліся на агульных сходах членаў саюза з удзелам актыву секцый, у якім налічваецца 79 чалавек. На іх абмяркоўваліся вынікі III-га пленума аргкамітэта Саюза работнікаў кінематаграфіі СССР і задачы павышэння ідэйна-мастацкай якасці кінафільмаў па сучасную тэму, праблемы майстэрства ў беларускіх фільмах, іх музычнага афармлення і выяўленчага вырашэння. На адным з апошніх сходаў кінематаграфісты рэспублікі абмяркоўвалі свае задачы ў святле рашэнняў XXII з'езда КПСС.

Аргкамітэт на сваіх пасяджэннях (іх было звыш сарака) разглядаў тэматычныя планы вытворчасці мастацкіх, хранікальна-дакументальных і навукова-папулярных фільмаў, абмяркоўваў даклады аб рабоце сваіх секцый, наладжваў кінафестывалі. У справаздачы паведамляецца і аб дзейнасці гэтых пасяджэнняў. Так, пасля абмеркавання праблем кінакрытыкі і тэорыі кіно ў ліпені 1959 г. было «вырашана ўстанавіць больш цесныя сувязі з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, намечаны сумесныя з ім выданні асобных работ па гісторыі беларускага кіно і рэкамендацыі тэм для кандыдацкіх дысертацый». Акрамя таго, аргкамітэт, сумесна з Саюзам журналістаў, правёў неўзабаве пасля гэтага пасяджэння семінар кінарэцэнзентаў рэспубліканскіх і абласных газет.

У справаздачы паведамляецца аб колькасці праведзеных абмеркаванняў новых кінакарцін (15). Аднак аргкамітэт прызнае, што гэта — амаль адзіная форма работы, якая ўжывалася. Не было творчых дыскусій па праблемных пытаннях развіцця савецкага і беларускага кінамастацтва, не абмяркоўваліся сцэнарыі, не разглядаліся справы арганізацыі кінавытворчасці.

Аргкамітэт прызнае, што «вырашыць сваю галоўную задачу — рашуча ўплываць на вытворчасць і садзейнічаць стварэнню высокаідэйных і значных мастацкіх фільмаў яму не ўдалося». Прычыны?

Няма акрэсленага адказу на пытанне, як канкрэтна і ў якіх формах саюз можа і павінен уплываць на вытворчасць і адказваць за якасць фільмаў. Справа ў тым, што кінастудыі, як правіла, паказваюць аргкамітэту саюза гатовыя кінакарціны, калі позна ўжо прымаць якія б там ні было захады да выпраўлення мастацкіх хібаў.

У справаздачы аргкамітэта ставіцца пытанне аб тым, што Саюз кінематаграфістаў, калі ён нясе адказнасць за лёс кінапрадукцыі, павінен таксама мець і адпаведнае права ўплыву на яе вытворчасць.

Ставіцца пытанне і аб творчых секцыях на студыях, якія, на думку аргкамітэта, ад часу стварэння саюза страцілі сваё самастойнае значэнне. Закранаюцца і многія іншыя важныя пытанні. Усе яны разам з пытаннямі, узнятымі ў дакладзе аргкамітэта, выклікалі жывы абмен думкамі сярод дэлегатаў з'езда, які працягваўся два дні.

Першым выступіў у спрэчках адказны сакратар Саюза кінематаграфістаў Латвійскай ССР А. Аболіньш. Ён павіншаваў удзельнікаў з'езда ад імя кінематаграфістаў сваёй рэспублікі. Прыгадаўшы дружбу вялікіх песняроў нашых народаў — Яна Райніса, Янкі Купалы і Якуба Коласа, прамоўца гаварыў аб творчых сувязях беларускага і латышскага мастацтва.

— На Устаноўчым з'ездзе кінематаграфістаў Савецкай Латвіі, — сказаў ён, — ваш кінарэжысёр І. Шульман прапанаваў стварыць сумесны беларускі і латышскі мастацкі фільм. Гэтая прапанова выклікала жывую цікавасць і яе ідэя не павінна заняпасці. Магчыма, гэта будзе фільм аб дружбе Райніса і Купалы. Магчыма, гэта будзе фільм пра нашы сумесныя партызанскія шляхі або пра сённяшнія працоўныя справы, — але ясна адно: такі фільм павінен быць створаны.

Заслужаны дзеяч мастацтва БССР Л. Голуб, узяўшы слова пасля выступлення А. Аболіньша, зачытаў дэлегатам з'езда праект статута Саюза работнікаў кінематаграфіі СССР.

Начальнік Галоўнага ўпраўлення кінафікацыі і кінапракату Міністэрства культуры БССР П. Жукоўскі расказаў аб росце ў рэспубліцы дзяржаўнай кінасеткі, якая за апошнія пяць год павялічылася ўдвая. Пабудавана 67 гарадскіх кінатэатраў з агульнай колькасцю месц — 22 тысячы. У рэспубліцы працуе 5.300 кінаўстановак. Толькі за мінулы год іх наведала 115 мільёнаў гледачоў.

— Гэта, таварышы, без уліку той велізарнай колькасці гледачоў, — падкрэсліў прамоўца, — якія глядзяць фільмы па тэлебачанню.

П. Жукоўскі спыніўся ў сваёй прамове на тэхнічным прагрэсе кінапракатнай базы: рэспубліка мае 60 шырокаэкранных кінатэатраў, два шырокафарматныя — у Мінску і Гродна (неўзабаве ўступае ў строй трэці — у Магілёве); у чатыры разы павялічылася колькасць сельскіх стацыянарных установак, удзельная вага якіх у агульнай сетцы складае зараз амаль 50 працэнтаў.

— Пройдзе яшчэ два-тры гады, — паведаміў П. Жукоўскі, — і ў сельскай мясцовасці мы цалкам пяройдзем на стацыянарныя кінаўстаноўкі, што значна палепшыць якасць дэманстравання фільмаў.

Далей прамоўца спыніўся на грамадскіх формах арганізацыі работы кінасеткі — клубах аматараў кіно, рэпертуарных камісіях, саветах кінатэатраў і інш.

Гаворачы пра вопыт арганізацыі паказу сельскагаспадарчых фільмаў у калгасах Гомельскай вобласці, які распаўсюджваецца па рэспубліцы і нават стаў здабыткам усёй краіны, П. Жукоўскі крытыкаваў Мінскую студыю навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў за тое, што яна мала стварае карцін на сельскагаспадарчую тэматыку.

— Справа тут у недасканаласцях тэматычнага планавання нашай работы, — нібы адказвае П. Жукоўскаму ў сваім выступленні рэжысёр-аператар студыі І. Вейняровіч.

Прыгадаўшы канкрэтныя прыклады, ён расказаў, як сама працэдура ўзгаднення і зацвярджэння плана ў розных інстанцыях часам перашкаджае адлюстраванню жыццёва патрэбнай тэмы.

І. Вейняровіч сказаў далей, што рэспубліканскі перыядычны друк мала аддае ўвагі дакументальнаму кіно. Ён крытыкаваў таксама аўтараў кнігі «Гісторыя беларускага кіно» за тое, што ў іх даследаванні пытанням дакументальнага кіно адведзена вельмі нязначнае месца.

Далей І. Вейняровіч палемізаваў з аўтарамі надрукаванага ў газеце «Літаратура і мастацтва» артыкула «Няхай гэта будзе «апошні хутар». Няўдачу маладых аўтараў фільма «Апошні хутар» ён бачыць не ў тым, што мастацкі савет студыі ўмешваўся ў работу маладых кінематаграфістаў, а ў тым, што яны «не ўмеюць бачыць жыццё».

— Можна выявіць ідэю новага сяла і праз кантраст псіхалогіі хутараніна з новым жыццём, — гаворыць прамоўца. — Але нельга апраўдваць матывы аднаасобніцтва, спачуваць яму. А такая небяспека ў фільме была, і мастацкі савет студыі справядліва ўказаў на яе. Шкада, што аўтары не знялі новы фільм, а абмежаваліся выкарыстаннем ужо гатовых кадраў са старых кінастужак. Таму іх і напаткала няўдача.

Навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР Г. Тарасевіч прысвяціў сваё выступленне пытанню развіцця кінакрытыкі.

— Далейшы росквіт прафесіянальнага і самадзейнага кінамастацтва ў рэспубліцы, — сказаў ён, — немагчымы без глыбокага і ўсебаковага асэнсавання і ўліку ўсяго папярэдняга творчага вопыту нашых кінематаграфістаў.

— У перадваенныя гады, — працягвае прамоўца, — у перыядычным друку было апублікавана некалькі артыкулаў і нарысаў, аўтары якіх намагаліся вызначыць творчы напрамак беларускага кіно, яго ідэйна-эстэтычныя канцэпцыі. Аднак усе яны (дарэчы, нярэдка супярэчлівыя ў асвятленні і ацэнках канкрэтных з'яў) даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Што ж датычыць нешматлікіх пасляваенных публікацый і асобных даследаванняў тэарэтычнага характару, дык яны таксама не даюць патрэбнага адказу на надзённыя пытанні.

Адну з найбольш надзённых задач кінакрытыкі прамоўца бачыць у словах нядаўняй пастановы ЦК КПСС, дзе гаворыцца аб неабходнасці папярэджвання магчымых зрываў і няўдач працаўнікоў кіно. Ён лічыць таксама вельмі надзённай праблему нацыянальнага аблічча твораў, што выпускаюцца на беларускіх кінастудыях. Вырашэнне гэтай праблемы, гаворыць Г. Тарасевіч, шмат у чым залежыць ад творчых кадраў нацыянальнага кінематографа.

— У нас мала кінаработнікаў, якія б глыбока ведалі гісторыю беларускага народа, яго мову, культуру, літаратуру і мастацтва, народную творчасць, — сцвярджае прамоўца. — Ці не таму пацярпелі няўдачу фільмы «Новы дом» і «Пасеялі дзяўчаты лён», што аўтар абодвух гэтых сцэнарыяў Я. Памешчыкаў меў цьмянае ўяўленне аб жыцці, пра якое ён браўся пісаць, не ведаў матэрыялу.

У пацвярджэнне сваёй думкі Г. Тарасевіч прыгадаў і гісторыю з фільмам «Несцерка», якому таксама неставала народнасці. У канцы сваёй прамовы Г. Тарасевіч узняў акцёрскую праблему ў кінавытворчасці.

Гэтай праблеме — акцёр у кіно — прысвяціла сваё выступленне і актрыса Сільвія Сяргейчыкава, якая вітала з'езд ад імя кінематаграфістаў Украіны.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ТРОХІ НЕ У ФОКУСЕ...

Сяброўскія шаржы А. САКАЛОВА.

Ул. Корш-Саблін

А. Куляшоў

А. Макаёнак

Часопісы ў лістападзе

## «ПОЛЫМЯ»

**Як і ў папярэдніх нумарах, часопіс друкуе матэрыялы, прысвечаныя 80-годдзю з дня нараджэння народнага паэта БССР Якуба Коласа. У адзінаццатай кніжцы змешчаны вершы Міколы Хведаровіча і Алексы Юшчанкі, прысвечаныя юбіляру, а таксама працяг белетрызаваных успамінаў Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе».**

**Часопіс друкуе заканчэнне трэцяй кнігі Піліпа Пестрака «Серадзібор», вершы Андрэя Александровіча, Антона Бялевіча, Кастуся Кірэенкі, Мацея Грубіяна. У перакладзе з чэшскай мовы змешчана апавяданне Іржы Марэка «Выхаваўца».**

**Чытач знойдзе ў нумары працяг «Белазёрскага дзённіка» Ул. Дадзіёмава, нататкі А. Карпюка «На пероне Гродзенскага вакзала» — пра сустрэчы з замежнымі турыстамі. Праблеме выкарыстання алюмінію прысвечаны артыкул А. Тафа «Крылаты метал».**

**З'явіўся ў часопісе і новы раздзел — «Пісьменнікі пра сябе». Тут надрукавана аўтабіяграфія Івана Мележа. З успамінамі пра славацкіх воінаў — сяброў па зброі ў мінулай вайне — выступае І. Вятроў.**

**У раздзеле «Бібліяграфія» з рэцэнзіямі на новыя кнігі выступаюць Р. Шкраба, Я. Герцовіч, Я. Усікаў. Надрукаваны тут таксама некалькі кароткіх рэцэнзій.**

**Гумар прадстаўлены ў часопісе апавяданнем Івана Грамовіча «Два ў два — дзевяць».**

## ЗА ПЛЁННУЮ ПРАЦУ

Імя Паўла Кавалёва добра вядома беларускаму чытачу. У сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння і за шматгадовую работу ў друку Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка, галоўнага рэдактара часопіса «Вожык» Паўла Кавалёва Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

* * *

За заслугі ў развіцці беларускай літаратуры і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння паэт Машара Міхаіл Антонавіч узнагароджан Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Дні чэхаславацкай культуры

# СУСТРЭЧЫ ДРУЖБЫ

У свята непарушнай дружбы ператварыліся Дні чэхаславацкай культуры ў Беларусі. Куды б ні прыйшлі госці — на завод ці ў калгас, ва ўстанову ці ў школу — усюды яны сустракалі сяброўскі, шчыры прыём. Гасцей цікавіць усё: і развіццё прамысловасці рэспублікі, і работа дзіцячых устаноў, і сельская гаспадарка, і новыя працы беларускіх вучоных. Пра ўсё гэта ім падрабязна расказвалі з вялікім задавальненнем.

Адна з сустрэч адбылася ў Міністэрстве культуры БССР. Сюды прыйшла вялікая група актывістаў Саюза чэхаславацка-савецкай дружбы, сярод якіх былі пісьменнікі, мастакі, работнікі ўстаноў культуры Чэхаславакіі. Намеснік міністра культуры М. Мінковіч пазнаёміў гасцей з работай міністэрства, расказаў аб буйнейшых установах культуры рэспублікі. Старшыня Саюза кампазітараў БССР Я. Цікоцкі, намеснік міністра асветы БССР М. Мурашка, работнікі Міністэрства культуры БССР і госці абмяняліся думкамі аб устанаўленні больш цесных сувязей паміж работнікамі культуры Беларусі і Чэхаславакіі.

Нашых гасцей зацікавіла творчае жыццё беларускіх студэнтаў і навуковых супрацоўнікаў. У Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага адбыўся вечар сустрэчы з дарагімі гасцямі. Чэхаславацкіх сяброў горача вітаў паэт Пятро Глебка. Аб брацкіх сувязях беларускай і чэхаславацкай літаратуры расказаў навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР А. Мажэйка. Затым выступілі беларускія пісьменнікі. І. Мележ падзяліўся ўражаннямі аб паездцы ў Чэхаславакію. Паэты П. Макаль, С. Шушкевіч прачыталі ў перакладах на беларускую мову творы чэхаславацкіх паэтаў. Чэхаславацкія пісьменнікі Браніслаў Хама і Францішак Браніслаў перадалі студэнтам шчырае прывітанне ад братняга народа.

Беларускія пісьменнікі і госці з Чэхаславакіі (злева направа): Іван Шамякін, чэшскі мастак Багуслаў Ягр, чэшскі пісьменнік Браніслаў Хама, Іван Мележ, чэшскі паэт Францішак Браніслаў, Пятро Глебка, Пятрусь Макаль.

Фота І. ЗМІТРОВІЧА. БЕЛТА.

У першыя дні госці пазнаёміліся з выдатнымі мясцінамі беларускай сталіцы, наведалі Дом-музей І з'езда РСДРП і Літаратурны музей Якуба Коласа. У мінскім кінатэатры «Цэнтральны» адбылося адкрыццё фестывалю чэхаславацкіх фільмаў. На ім прысутнічала група актывістаў Саюза чэхаславацка-савецкай дружбы. Намеснік міністра культуры БССР Р. Мачулін ва ўступным слове расказаў аб цікавасці беларускага гледача да твораў кінамастацтва Чэхаславакіі. Ён адзначыў, што за апошні час у кінатэатрах Беларусі дэманстравалася 14 фільмаў чэхаславацкіх студый. На адкрыцці кінафестывалю быў паказаны фільм — «Небяспечны ўзрост».

Сяброўскія сустрэчы адбыліся ў тэатральна-мастацкім інстытуце, Доме культуры будтрэста № 5, у клубе цагельнага завода № 2.

Не толькі ў сталіцы адбыліся сустрэчы з дарагімі гасцямі. Прадстаўнікоў братняй сацыялістычнай краіны горача віталі працоўныя Віцебска ў Палацы культуры мясцовай прамысловасці.

Другая група гасцей наведала Магілёў і пазнаёмілася з работай буйнейшага прадпрыемства — завода пад'ёмна-транспартнага абсталявання імя Кірава. Сябры з Чэхаславакіі пабывалі ў Гомелі. Там адбыліся вялікія вечары дружбы.

У абласных цэнтрах рэспублікі, у раённых бібліятэках і калгасах экспануюцца фотавыстаўкі, мантажы, стэнды аб дасягненнях брацкага чэхаславацкага народа.

У наступныя дні госці працягвалі азнаямленне з жыццём рэспублікі. Яны пабывалі ў калгасах імя Гастэлы Мінскага раёна і «Рассвет» Кіраўскага раёна, наведалі Дзяржаўны мастацкі музей БССР, прысутнічалі на вялікім канцэрце ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, пабывалі на прадпрыемстве камуністычнай працы — Віцебскім дывановым камбінаце.

У нядзелю ў сталіцу Беларусі прыйшла эстафета культуры Масква—Прага, прысвечаная месячніку савецка-чэхаславацкай дружбы. Яе перадалі спартсмены Магілёўшчыны. Матацыклісты сталіцы перададуць эстафету спартсменам Украіны.

Да Дзён чэхаславацкай культуры Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала дзве кнігі аб сумеснай барацьбе беларускіх і чэхаславацкіх партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны — зборнік «Агні партызанскай дружбы» і кніга ўспамінаў І. Вятрова «Браты па зброі».

У Мінскім Палацы піянераў адбылася сустрэча піянераў з чэхаславацкімі гасцямі.

Мастаку Францішку Гросу піянеры прыкалолі значок.

Фота У. ЛУПЕЙКІ. БЕЛТА.

